# наша СВАБОДА

№7(94) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

19 СТУДЗЕНЯ 2001 года ПЯТНІЦА



Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ




ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Наша газета праводзіць розыгрыш прызоў сярод сваіх падпісчыкаў.

Той, хто падпішацца на нашу газету да 1 лютага, мающь шанец выйграць халадзільнік, Тэлевізар, відэа-плейер, фотаапарат, прас, электрачайнік.

Тыя, хто падпісаўся на паўгода, могуць выйграць гадавую аплату за вучобу ў любой навучальнай установе Беларусі для сябе ці сваяка.

Для ўдзелу ў розыгрышы патрэбна выслаць у рэдакцыю копію падпіснога купона на адрас: 220123, Мінск-123, а/я 103.

## Бывшие политзаключенные не встали при исполнении сталинского гимна

Сегодня, в первый день работы Государственной Думы после зимних каникул, при открытии пленарного заседания впервые исполнялся новый государственный гимн. Только два депутата не встали при исполнении музыки советского гимна — бывшие политзаключенные Юлий Рыбаков и Сергей Ковалев. Гимн был принят в конце прошлого года и представляет собой музыку старого советского гимна 1944 года на новые слова автора того же «сталинского» гимна Сергея Михалкова.

Сергей Ковалев был осужден в 1975 году в Вильнюсе на 5 лет лагерей и 3 года ссылки за «антисоветскую деятельность». Юлий Рыбаков был осужден в 1976 году в Ленинграде на 6 лет лагерей за «антисоветские надписи» на стене Петропавловской крепости. ■

ПРИМА

## Расію ў «васьмёрку» не пусцяць?

Міхась КАРПОВІЧ

Учора намеснік міністра фінансаў Германіі Кая Кох-Вейзер паведаміў у інтэрв'ю газеце *Financial Times Deutschland*, што Германія гатовая заблакаваць увахожанне Расіі ў склад «вялікай васьмёркі», калі тая не будзе плаціць па сваіх даўгах. «Паводзіны Расіі не адпавядаюць яе прэтэнзіям на сяброўства ў «васьмёрцы», паведаміў Кая Кох-Вейзер.

Дагэтуль Германія актыўна лабіравала ўвахожанне Расіі ў склад групы сямі прамыслова развітых краінаў-лідэраў – «вялікай сямёркі». Аднак цяпер яе больш цікавіць вяртанне грошай, што Расія завінавацілася Германіі за апошнія гады.

Расія цяпер вінаватая дзяржавам-крэдыторам, што ўваходзяць у гэтак званы «Парыжскі клуб», суму ў памеры каля 117 мільярдаў нямецкіх марак (каля 56 мільярдаў долараў), з іх 57 мільярдаў марак (больш за 27 мільярдаў долараў) – непасрэдна Германіі.

К.Кох-Вейзер рэзка адхіліў усе прапановы Крамля актывізаваць правядзенне рэформаў – у выпадку, калі Расіі «спішуць» даўгі. «Захад не набывае рэформы. Гэта вельмі небяспечная гульня». ■

# Дзяржсакратар Саюза сеў на нары

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Як паведаміў учора ўдзень прэс-сакратар А.Лукашэнкі Мікалай Барысевіч, беларускі кіраўнік «узяў пад асабісты кантроль справу Барадзіна». Сам жа А.Лукашэнка прызнаўся, што рашэнне аб накіраванні дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі П.Барадзіна ў Амерыку падпісаў асабіста ён.**





Паляўнічы і ягоная здабыча: генеральны пракурор кантона Жэнева Бернар Бертоса і дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Павел Барадзін.

## Як гэта было

Арышт у Нью-Йорку у ноч з серады на чацвер Паўла Барадзіна, які прыляцеў у Амерыку на цырымонію інаўгурацыі новага прэзідэнта Амерыкі Джорджа Буша-малодшага, стаўся вялікай нечаканасцю як для Расіі, так і для Беларусі.

Затрыманне адбылося ў зале для праходжання мытнага кантролю нью-йоркскага аэрапорта імя Джона Кенэдзі агентамі Федэральнага бюро расследаванняў ЗША ў адпаведнасці з судовым даручэннем пракуратуры Швейцарыі. Замест урачыстасцяў ён цяпер бавіць час у бруклінскай турме. Учора ўвечары ў Ньюйоркскім судзе мусілі пачацца слуханні па справе аб выдачы П.Барадзіна Швейцарыі.

Як вядома, Паўла Барадзіна абвінавачваюць у атрыманні хабару ў памеры 25 мільёнаў долараў за размяшчэнне замовы на правядзенне рэстаўрацыйных працаў Вялікага Крамлёўскага палаца. У той час цяперашні дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі кіраваў упраўленнем справамі адміністрацыі прэзідэнта Расіі. Дзякуючы ягонаму рашэнню, замову на рэстаўрацыю Крамля атрымала швейцарская будаўнічая фірма *Mabetex*. Кошт кантракта складаў, па розных ацэнках, каля 300 мільёнаў долараў. Потым, па сцвярджэнні швейцарскіх пракурораў, гэтыя 25 мільёнаў долараў былі «адмытыя» Паўлам Барадзіным праз банкі Швейцарыі.

Следства аб карупцыі ішло некалькі гадоў паралельна ў Расіі і Швейцарыі. 20 студзеня 2000 года генеральны пракурор швейцарскага кантона Жэнева Бернар Бертоса падпісаў ордэр на арышт П.Барадзіна па абвінавачванні ў карупцыі. Павел Барадзін назваў тады абвінавачванні «смеху вартымі» і паведаміў, што ніякіх злачынстваў ён не ўчыняў. Аднак за мяжу з таго часу не выязджаў. Бо міжнародны ордэр на арышт можа дзейнічаць у любой краіне свету.

Тым часам, напрыканцы 2000 года расійская пракуратура вырашыла закрыць справу, бо яна «не мае складу злачынства». Аднак швейцарская пракуратура не спыніла працу. На мінулым тыдні расследаванне справы Mabetex было скончанае, і пракуратура Швейцарыі перадала ўсе свае высновы і доказы Інтэрполу. З іх вынікае, што папярэдняя інфармацыя пра дачыненне былых першых асобаў Расіі да міжнароднай карупцыі пацвердзілася.

У сераду П.Барадзін упершыню з таго часу, як супраць яго было высунутае абвінавачванне, выправіўся за мяжу. Запрашэнне на інаўгурацыю ад імя аднаго з чальцоў камітэта па інаўгурацыі, аднаго з сенатараў ад Рэспубліканскай партыі, надало яму ўпэўненасці ва ўласнай недатыкальнасці. Але дарма.

Дарэчы, у апараце Саюзнай дзяржавы паведамілі агенцтву «Интерфакс», што П.Барадзін накіраваўся ў ЗША па звычайным пашпарце грамадзяніна Расіі. Дыпламатычнага пашпарта ў яго не было. Супрацоўнікі апарата паведамілі, нібыта напярэдадні свайго падарожжа ў Нью-Ёрк П.Барадзін здаў свой дыпламатычны пашпарт для афармлення ўязной візы ЗША, але ўзніклі «пэўныя праблемы». Таму П.Барадзін паехаў па звычайным пашпарце.

## Дыпламат якой дзяржавы?

І тут узнікае пытанне, ці быў увогуле дыпламатычны пашпарт у Паўла Барадзіна. Бо ягоная цяперашняя «дыпламатычная пасада» вымагае простага пытання: дыпламатам якой краіны ён з'яўляецца? «Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі», кажуць цяпер афіцыйныя беларускія і расійскія крыніцы. Але ці існуе юрыдычна такая дзяржава? Ці атрымала яна міжнароднае прызнанне? Ці зарэгістраваная яна ў якасці міжнароднага ўтварэння ў ААН? Прэс-сакратар беларускага міністэрства замежных справаў Павел Латушка не здолеў даць адказу на гэтае пытанне.

Калі толькі дапусціць, што «Саюзная дзяржава» – штучнае ўтварэнне «толькі для ўнутранага спажывання», якая не мае ніякага міжнароднага статусу, ані прызнання ў свеце, — а толькі «братэрскія абдымкі» А.Лукашэнкі і У.Пуціна, — тады ўсё становіцца на свае месцы. П.Барадзін – не «міжнародны дыпламат», а звычайны авантурыст, якому проста не пашанцавала. Уявіце сабе, як ён тлумачыў амерыканскім афіцэрам у аэрапорце свой статус: «Адпусціце мяне, я дыпламат! У мяне дыпламатычная недатыкальнасць!» – «А дзе ваш дыпламатычны пашпарт?» – «Забыўся дома»...

## Чалавек прэзідэнтаў

Павел Барадзін шчыльна звязаны не толькі з першым расійскім прэзідэнтам Барысам Ельцыным, з якім ён лічыцца «адным з бліжэйшых сяброў», але і з цяперашнім прэзідэнтам Уладзімірам Пуціным. Калі тагачасны «патрон» У.Пуціна Анатоль Сабчак прайграў выбары мэра Санкт-Пецярбурга, то У.Пуцін застаўся фактычна без працы. І тады П.Барадзін, у той час – кіраўнік справамі адміністрацыі прэзідэнта — узяў яго да сябе намеснікам. Некаторыя кажуць, што без гэтага запрашэння У.Пуцін увогуле мог не стаць новым кіраўніком краіны.

Па чутках, Павел Барадзін атрымаў пасаду кіраўніка справамі дзякуючы якасцям пельменяў, якімі ён частаваў Б.Ельцына падчас візіту прэзідэнта ў Якуцк. Як бы там ні было, але са снежня 1993 года па сярэдзіну студзеня 2000 года П.Барадзін займаўся забеспячэннем надзейнага функцыявання прэзідэнта – і не толькі яго. Менавіта П.Барадзін стварыў цяперашняе ўпраўленне справамі прэзідэнта ў сённяшнім выглядзе – на яго працуюць 120.000 чалавек, гадавы абарот складае каля 3 мільярдаў долараў. Паводле памераў сваіх валоданняў, упраўленне справамі саступае толькі «Газпрому».

Уладзімір Пуцін, хутчэй за ўсё, мае добрыя пачуцці ў дачыненні да свайго былога начальніка. І хоць адным з першых кадравых рашэнняў в.а. прэзідэнта Расіі ў студзені 2000 года стала адхіленне П.Барадзіна ад пасады кіраўніка ўпраўлення справамі, аднак амаль адразу была знойдзеная для адстаўніка бяспечная і прыбытковая сінекура. Ужо 26 снежня Павел Барадзін быў прызначаны на пасаду дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

## Наш адказ Вашынгтону

Ужо з раніцы ў чацвер Аляксандр Лукашэнка сабраў аператыўную нараду ў сваёй рэзідэнцыі, каб абмеркаваць сітуацыю, якая склалася вакол арышту расійска-беларускага чыноўніка. У нарадзе бралі ўдзел «сілавікі» — дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Беларусі Урал Латыпаў, старшыня КДБ Леанід Ерын, кіраўнік МУС Уладзімір Навумаў, а таксама кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, паведаміла агенцтва РИА «Новости».

Падчас нарады А.Лукашэнка паведаміў, што дазвол на падарожжа Паўла Барадзіна ў ЗША быў падпісаны толькі ім. Ён назваў арышт «выключна недружалюбным учынкам з боку ЗША ў дачыненні да Беларусі і Расіі, і, перад усім, іхняга саюза, сакратаром якога працуе цяпер Барадзін». Першапачаткова запрашэнне Паўла Барадзіна на цырымонію інаўгурацыі прэзідэнта ЗША, па словах А.Лукашэнкі, было расцэненае як «добры жэст з боку Амерыкі».

«Вось гэта – амерыканская дэмакратыя, яны паказалі высокую дэмакратыю і сказалі, што ў чацвер і ў суботу ўначы ён будзе ў чорным смокінгу. У якім ён апынуўся смокінгу?» – сказаў А.Лукашэнка.

А.Лукашэнка адзначыў, што калі П.Барадзін выязджаў у ЗША, то ніякіх пытанняў з боку амерыканскай амбасады не было. «Мы мусім выпрацаваць лінію паводзінаў, як паводзіць сябе далей са Злучанымі Штатамі Амерыкі і як Саюзная дзяржава», — заявіў А.Лукашэнка. Ён таксама падкрэсліў, што як старшыня Вышэйшага савета Саюзнай дзяржавы вельмі заклапочаны гэтай праблемай. А пазней прэс-сакратар М.Барысевіч агучыў новую заяву шэфа: А.Лукашэнка бярэ пад асабісты кантроль справу аб арышце П.Барадзіна.

Цікава, дарэчы, што яшчэ пазаўчора ўрадавая «Советская Белоруссия» пісала: «У гэтым прагматычным кантэксце лагічнай выглядае і сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з дзяржсакратаром Саюзнай дзяржавы Паўлам Барадзіным». П.Барадзін цяпер сядзіць на нарах у Нью-Йорку і чакае суда. Будзем чакаць сустрэчы? ■

## НАВІНЫ

■ **Мінулымі выхаднымі ў Мінску ў Лошыцкім парку быў зруйнаваны крыж, пастаўлены там у памяць ахвяраў палітычных рэпрэсіяў.** Як вядома, у 20-30-ыя гады ў Лошыцы адбываліся масавыя расстрэлы рэпрэсіраваных беларусаў, на Дзяды там штогод праводзяцца жалобныя акцыі. Вандалы пакінулі на снезе каля зламанага крыжа надпіс «РНЕ».

■ **Сума запазычанасці за аўтамабільнае паліва на прадпрыемствах міністэрства транспарту складае 683 мільёны рублёў.** Кошты на паліва ўвесь час растуць, а транспартныя тарыфы дзяржава трымае пад лімітам. Напрыклад, самаакупляльнасць прыгарадных пасажырскіх перавозак у параўнанні з 1995 годам скарацілася з 55% да 42%.

■ **У Беларусі з кожным годам стала расце колькасць дзяцей-сіротаў.** За апошняе дзесяцігоддзе іх паболела амаль у тры разы. Зараз тых дзетак, у каго няма бацькоў, налічваецца ў краіне каля 30 тысячаў.

■ **Сёлета канцэрн «Белэнерга» збіраецца больш жорстка змагацца з неплацельшчыкамі энергіі.** У прыватнасці, тут цяпер будуць заключаць дамовы на энергапастаўкі з абавязковым пунктам пра папярэднюю аплату. У 2000 годзе канцэрн 27 тысячаў разоў скарачаў пастаўкі энергіі і 3 тысячы наогул адключаў яе.

■ **Увесну пачнецца выплата Германіяй і Аўстрыяй кампенсацыі беларусам, што ў гады вайны прыцягваліся да прымусовай працы ў гэтых краінах.** На гэта выдзелена 732,5 мільёна нямецкіх марак для 160 яшчэ жывых былых беларускіх остарбайтэраў.

■ **На Брэстчыне адзначаны рост выяўлення ВІЧ-інфекцыяў.** У 2000 годзебыло зафіксавана 30 выпадкаў. Усяго ў рэгіёне 157 інфікаваных. З іх 88 прыпадае на Пінск, 37 – на Баранавічы, 18 – на Брэст. Каля паловы хворых – моладзь да 25 гадоў.

■ **Паэтка Ларыса Геніюш – Чалавек Гродзеншчыны 20-га стагоддзя.** Гэткім стаў вынік апытання, праведзенага сярод чытачоў гродзенскай незалежнай газеты «Пагоня». Гродзенцы называлі таксама імёны Васіля Быкава, Барыса Кіта, Вольгі Корбут, Зянона Пазьняка, Браніслава Тарашкевіча, Віктара Шалкевіча.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА






Спецыяльны купон – на стар. 5.



Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1240

# Пра волю і дрот

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

## На волю шагам марш!

Больш за 3 тысячы вязняў выйдуць на волю, калі іхнія справы будуць перагледжаны паводле новага Крымінальнага кодэкса. Гэта дадзеныя міліцыі, якія давёў






● Юры Захаранка, Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі, Дзмітрый Завадскі

на сваёй першай прэс-канферэнцыі 16 студзеня міністр Уладзімір Навумаў. Таксама ён паведаміў, што на змяншэнне тэрміну пакарання разлічваюць яшчэ амаль 25 тысяч сядзельцаў беларускіх турмаў.

А ўсяго ў судах прыйдзецца пераглядаць каля 30 тысяч справаў. У тым ліку будзе перагледжанае і справа дэпутата Уладзіміра Кудзінава, які ўжо правёў за кратамі 4 гады. Яму неўзабаве «свяціць» воля, пацвердзіў міністр. А вось калегу Кудзінава дэпутату Андрэю Клімаву на новы кодэкс спадзявацца не варта – яго паслабленне не тычыцца.

Дарэчы, працэс перагляду справаў можа расцягнуцца на 2-3 гады. Гэта прызналі суддзі на адмысловай нарадзе, праведзенай у Вярхоўным судзе. Яны просяць міліцыянтаў, адказных за выкананне пакаранняў, у першую чаргу накіроўваць ім на перагляд справы тых, хто па новым кодэксе сваё ўжо адседзеў. А яшчэ суддзі кажуць, што нядрэнна было б у сувязі з такой навалай працы пашырыць штаты судоў ды падняць заробкі. Але пакуль гэта праблема не вырашаная. З дакладнасцю сцвярджаецца толькі пра павелічэнне колькасці адвакатаў – іх стане на 250 больш, запэўнівае міністр юстыцыі Генадзь Варанцоў.

## У справах зніклых без пераменаў

У аўторак Уладзімір Навумаў, толькі адказваючы на пытанні прэсы, закрануў тэму зніклых. Пра справу Зміцера Завадскага было сказана, што па ёй яшчэ нікому абвінавачванне не прад'яўлена. Міністр даў зразумець, што следства ведае шмат чаго, але абвяшчаць гэтыя звесткі – значыць, нашкодзіць справе. Яшчэ прагучала, што ад журналістаў, якія друкуюць свае версіі гэтага здарэння, толькі шкода, маўляў, зводзяць следчых не ў той бок. Міністр прызнаў, што ціск па гэтай справе зверху аказваецца, але ў станоўчым плане, што яшчэ не расследавалі. Пра выпадкі папярэджвання следчымі журналістаў, каб тыя трымаліся ад справы Завадскага як мага далей, Уладзіміру Навумаву, паводле ягоных словаў, невядома.

З астатніх зніклых быў згаданы толькі экс-міністр Юрый Захаранка. Уладзімір Навумаў паасцярогся, як ягоны папярэднік Юрый Сівакоў, заяўляць, што знайсці Захаранку справа ягонага гонару. Навумаў збіраецца шукаць свайго былога калегу ў звычайнай манеры, як і тых амаль 5 тысяч грамадзянаў краіны, што знікаюць невядома куды штогод. Аднак варта нагадаць, што, згодна з дадзенымі таго ж міністэрства, якое цяпер узначальвае спадар Навумаў, прыкладна 5 тысяч звычайных зніклых штогод і знаходзяць, а вось з чатырох «палітычных зніклых» – гэта Захаранка, Ганчар, Красоўскі і Завадскі – не знойдзены ніводны.

## Злачыннасць, на жаль, не здаецца

За мінулы год у краіне зарэгістравана 135,5 тысяч злачынстваў, паведамляе прэс-рэліз МУС. Заўважым, што лічба дадзеная без параўнання з мінулым годам. І пры Сівакове, і нават за Агальцом міліцыянты не хавалі папярэдні ўзровень злачыннасці, які і дазваляе меркаваць пра дынаміку года. У дадзеным выпадку сціпла прызнаецца толькі рост наўмысных забойстваў з бытавымі прычынамі, злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, а таксама разбояў і рабаўніцтваў. Пры гэтым заўважаецца, што гэты рост адбыўся з прычынаў, «уплыў на якія з боку міліцыі абмежаваны – п'янства, сацыяльная неўладкаванасць і г. д.» Вось тут з аўтарамі справаздачы хацелася б паспрачацца і нагадаць, што мала знойдзецца ў нашым грамадстве сілаў, якія б былі настолькі адданы існуючаму рэжыму, як міліцыя (магчыма, не ўся, але яе самая баявая частка). Таму пра тую ж сацыяльную неўладкаванасць лепш не згадваць. Шэсць гадоў мы топчамся на месцы і толькі множым гэтую неўладкаванасць, замест таго, каб яе «ўладкоўваць», як тое паспяхова робяць некаторыя нашыя суседзі. А ў нас атрымліваецца, якую кашу зварылі, такую і ядзім.

## Віцебскага сіндрому ў нас не будзе

Ад міліцэйскіх кіраўнікоў не давялося пачуць словаў шчырай заклапочанасці тым, што адбылося ў віцебскай калоніі непаўнагадовых. Міністр амаль з незадавальненнем адрапартаваў, што бунт у калоніі падаўлены, супраць дзесятка зачыншчыкаў узбуджаныя крымінальныя справы. Службовае расследаванне не вядзецца, як пра дасягненне таксама паведаміў Уладзімір Навумаў. Атрымлівалася, што ніхто з міліцыянтаў ні ў чым не вінаваты, а вінаваты толькі той бок – непаўнагадовыя, якія, паводле міністра, не зусім і падпадаюць пад гэтую катэгорыю. Вінаватыя, бо не слухалі ўгаворы вартаўнікоў і святароў спыніць бунт. Магчыма, гэта і праўда, не слухалі, своечасова не спыніліся. Але няўжо не бачна, што праблема не ў факце бунту, а ў прычынах, якія да яго прывялі? Няўжо вялікім дзядзькам незразумела тое, што зразумела дзецям – калі з чалавекам абыходзяцца, як з быдлам, ён пачынае бунтаваць. Менавіта дзеці першымі не вытрымліваюць парадкаў, да якіх прызвычаіліся дарослыя – парушэння элементарных правоў, здзеку, бяздушша, пазбаўлення перадачаў, пакарання карцарам і г. д. Малое дзіця ў такіх умовах плача, больш дарослы, у рознай форме, але бунтуе. Гэтае правіла добра вядома больш-менш адукаваным бацькам, але чамусьці не адказным міліцыянтам. Няўжо яны не бачаць патрэбы разабрацца, а раптам якраз бесчалавечныя парадкі сталі прычынай бунту ў віцебскай калоніі? Шкада, але паводле пачутага на прэс-канферэнцыі ў МУС – разбірацца ў прычынах здарэння асабліва ніхто не збіраецца. Адзнака падзеі зверху ўжо атрыманая, і паводле гэтай адзнакі, нам калі чаго не хапае, дык не цвярозага аналізу, а калючага дроту. ■

## НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ

**Якія газеты вы рэгулярна чытаеце ці выпісваеце? Што вы ведаеце пра газету НАША СВАБОДА?**



**ФЁДАР ПАЎЛАВІЧ, юрыст:** — Выпісваю «Белорусскую деловую». НАШУ СВАБОДУ раней чытаў і выпісваў, але зараз толькі БДГ, яна мне больш падабаецца. З дзяржаўных раней чытаў «Рэспубліку», зараз дзяржпрэсу не чытаю.



**СЯРГЕЙ, студэнт:** — Чытаю недзяржаўную прэсу, БДГ, «Народную волю»... Да дзяржаўнай прэсы стаўлюся вельмі скептычна, не чытаю яе зусім. Часам замежную прэсу пачытваю, расійскую, прыкладам.



**АЛЕНА АНАТОЛЬЕЎНА, гісторык:** — Не выпісваю нічога, а рэгулярна чытаю «Аргументы і факты», «Гастраном». Беларускую прэсу не чытаю абсалютна, лічу яе нецікавай.



**ТОЛЯ, працуе на МАЗе:** — Не выпісваю наогул. А чытаю пастаянна «Знамя юности», «Вячэрні Мінск». Недзяржаўнай прэсай не цікаўлюся. А пра існаванне вашай гэтай «Свабоды» чуў, але не чытаў яе.



**ПЕТРУЧУК, пенсіянер:** — Дык вось я што чытаю! (Паказвае «Врачебное заключение», надрукаванае ў НАШАЙ СВАБОДЗЕ на мінулым тыдні). Надта мне апошнім часам стала падабацца ваша газета, пасталела, стала больш цікаваю. Яшчэ чытаю «Народную волю».



**АКСАНА, студэнтка гістфака БДУ:** — Рэгулярна чытаю? «АіФ» на Беларусі чытаю. З чыста беларускіх нават і не ведаю, калі апошні раз чытала. Пра НАШУ СВАБОДУ чула і нават чытала пару нумароў. Нельга пра гэту газету адназначна казаць. Ёсць як станоўчыя бакі, так і адмоўныя. Але некаторыя матэрыялы вельмі спадабаліся.



**КУЗЬМІЧ ІГАР МІХАЙЛАВІЧ, зубны тэхнік:** — «Камсамолку» я чытаю, «Аргументы». З беларускіх? Беларускі ўкладыш у «Камсамолцы». З чыста беларускіх хіба толькі газету «Отдыхай». Пра «Свабоду», канешне ж, чуў, але ніколі не канцэнтраваў увагі на ёй.



**ЖЭНЯ, тэлемайстар:** — Ой, павылятала неяк адразу... Успомніў! Любімыя з беларускіх газет гэта «Здравый смысл» і гэта, з плюсам, а, «Свабодныя навіны плюс». Недзяржаўныя ў прынцыпе мне падабаюцца значна больш. Пра НАШУ СВАБОДУ ці чуў? Гэта якая была «Свабода»? Ну чуў, канешне, вядомае выданне, але зараз не чытаю.

**Апыталі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# Каманда беларускай апазіцыі

Рыгор БУЯН

Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў не здолела 17 студзеня зацвердзіць механізм вылучэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад аб'яднанай апазіцыі. Цяпер гэта ўжо, як і вылучэнне канкрэтнага кандыдата, — справа Кангрэса дэмакратычных сілаў. КРДС аднавіла дзейнасць аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні кангрэса на чале з Юрыем Хадыкам, даручыўшы да наступнага пасяджэння 27 студзеня выпрацаваць канкрэтны план дзеянняў.

Наконт даты правядзення форума ўнутры КРДС ёсць два падыходы. Калі «Ганчарык, Чыгір і Домаш змогуць дамовіцца і калі мы падыдзем да стварэння блока дэмакратаў (КРДС. – **Р.Б.**) з прафсаюзамі (Федэрацыяй прафсаюзаў. – **Р.Б.**), то форум пройдзе ці позняй вясною, ці ўвогуле ўлетку». «Тады Кангрэс будзе разглядацца як форум падтрымкі адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад аб'яднанай апазіцыі», — сцвярджае старшыня АГП Анатоль Лябедзька. Калі ж КДС мусіць будзе вызначыць адзінага кандыдата, то найбольш верагодным бачыцца правядзенне кангрэса ў сакавіку.

Дарэчы, перспектывы стварэння блока «КРДС+ФПБ» расцэньваюцца як пяцьдзесят на пяцьдзесят. Лідэры партыяў – сябраў КРДС, у тым ліку і прафсаюзных, абедзвюма рукамі галасуюць за стварэнне такога блоку. Аднак існуе верагоднасць, што абедзве сілы не здолеюць выпрацаваць адзіны падыход да прэзідэнцкай гонкі.

На 27 студзеня, калі КРДС збярэцца чарговы раз, запрошаныя тры найбольш рэальныя прэтэндэнты на пасаду адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі. Ім будзе прапанавана зрабіць публічную заяву, што яны бяруць на сябе абавязак пайсці на прэзідэнцкія выбары адзінай камандай і бездакорна выконваць працэдуру вылучэння адзінага кандыдата — калі, вядома, да гэтага часу механізм будзе вызначаны. Між тым, і М.Чыгір, і С.Домаш неадназова заяўлялі, што «прынцыповае рашэнне» ісці на выбары адзінай камандай прынятае. Што да У.Ганчарыка, то да «выбарчага» пленуму ФПБ ён пазбягае ўсялякіх кантактаў з журналістамі.

На працягу трох бліжэйшых тыдняў пад эгідай КРДС мяркуецца правесці «круглы стол» з умоўнаю назвай «Прэзідэнцкія выбары-2001», на якіх плануецца абмеркаваць умовы прэзідэнцкай кампаніі ды вызначыць стратэгію перамогі аб'яднанай апазіцыі: крок за крокам. Да ўдзелу ў мерапрыемстве запрашаецца «самы шырокі спектр палітычных сілаў»: і партыя камуністаў, і ЛДП, ды іншыя апазіцыйныя цяперашняму рэжыму сілы. Тым самым КРДС паспрабуе зняць з сябе абвінавачанні, што «КРДС манапалізавала гэтую тэму», сцвярджае А.Лябедзька.

Публікацыя ў НАШАЙ СВАБОДЗЕ медыцынскага заключэння псіхіятра Дзмітрыя Шчыгельскага, у якім урач робіць выснову, што А.Лукашэнка пакутуе на псіхічную хваробу, вымагла ад КРДС спецыяльнай заявы. Аб'яднаная апазіцыя запатрабавала ўнесці ў заканадаўства норму, па якой найбольш патэнцыйныя кандыдаты ў прэзідэнты праходзяць медыцынскае абследаванне на псіхічнае здароўе. ■

# Першы прыёмны дзень генпракурора Шэймана стаў непрыёмны

17 студзеня 2001 года адбыўся першы прыёмны дзень у Генеральнага пракурора Віктара Шэймана.

Пра тое, як праходзіў прыём, распавёў чалавек, які звярнуўся ў гэты дзень у Генеральную пракуратуру са скаргай: « Людзей сабралося шмат, чалавек 20, але ніводнага чалавека не прынялі. Выйшаў Жыдковіч Барыс, які павінен запрашаць у кабінет да пракурора, назваў некіх прозвішчы... Сярод тых, хто сабраўся ў фае Генеральнай пракуратуры, людзей з такімі прозвішчамі не было. Людзі сталі абурацца, казалі: «Прыёму ніякага няма! Навошта вы падманваеце людзей!». З'явілася міліцыя, адной жанчыне пагражалі сілай, абяцалі адправіць у «псіхушку». А гэтая жанчына сказала міліцыянеру: «Адзеньце мне наручнікі і завядзіце да Шэймана. Я згодная ісці да яго на прыём у наручніках!» ■

**Праваабарончы цэнтр «Вясна»**

# Свабоднаму прафсаюзу Магілёўскі аблвыканкам адмовіў у рэгістрацыі

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

Магілёўскі аблвыканкам адмовіў рэгіянальнай структуры Свабоднага прафсаюза Беларускага (МАРА СПБ) у рэгістрацыі. У якасці прычыны называецца адсутнасць славутага «юрыдычнага адраса».

Пасля цэлага года бясплённых намаганняў здабыць «юрыдычны адрас на прадпрыемстве, МАРА СПБ вырашыў зарэгістравацца па хатнім адрасе аднаго з актывістаў прафсаюзнай арганізацыі. Аднак выканкам запатрабаваў ад гаспадара кватэры даведку пра тое, што гэтае памяшканне пераводзіцца ў нежылы фонд – патрабаванне загадзя незаконнае, як заўважыла прэс-служба СПБ. Яшчэ адной прычынай адмовы ў рэгістрацыі сталася адсутнасць 3 зарэгістраваных «пярвічак». Пікантнасць гэтай сітуацыі заключаецца ў тым, што той самы выканкам, які адмаўляецца рэгістраваць МАРА СПБ, адмовіўся зарэгістраваць і «пярвічныя» арганізацыі.

Па гэтым зачараваным коле і ганяюць магілёўскія чыноўнікі прафсаюзных актывістаў. ■

# Апазіцыя мусіць быць у Страсбургу

Рыгор БУЯН

Запрашэнне ў Страсбург на паседжанне Палітычнага камітэта ПА СЕ, на якім 22-26 студзеня будзе ізноў падымацца «беларускае пытанне», прадстаўнікоў урадавага боку і трох патэнцыйных прэтэндэнтаў на адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі, выклікала незадаволенасць самой апазіцыі. Справа ў тым, што ў Страсбургу ізноў будзе ўзнімацца пытанне прызнаваць ці не прызнаваць легітымным заканадаўчым органам палату прадстаўнікоў №2. Раней двойчы на Палітычны камітэт запрашаліся як урадавая, так і ад палітычных апазіцыйных партыяў дэлегацыі. Гэтым разам Страсбург змяніў фармат разгляду «беларускага пытання», пакінуўшы па-за гульнёй палітычную апазіцыю.

17 студзеня Кансультатыўны савет апазіцыйных палітычных партыяў накіраваў старшыні Палітычнага камітэта ПА СЕ Тэры Дэвісу ліст, у якім даводзіць «мэтазгодным удзел у гэтых слуханнях прадстаўнікоў палітычнай апазіцыі: Сяргея Калякіна, Анатоля Лябедзькі ды Валянціны Палевіковай». КСАПП лічыць, што разгляд «беларускага пытання» ў адсутнасць аднаго з зацікаўленых бакоў не дазволіць Палітычнаму камітэту аб'ектыўна ўспрыняць унутрыпалітычную сітуацыю на Беларусі. ■

# Литовский сейм о «кровавом январе» 91-го

Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com) из Вильнюса

Парламентский комитет по иностранным делам предлагает Сейму не спешить принимать обращение к российской Госдуме о помощи в уголовном деле по поводу кровавых событий 13 января 1991 года. На прошлой неделе экс-председатель Сейма Витаутас Ландсбергис выступил с инициативой официально обратиться к парламенту России, чтобы тот в свою очередь призвал российские правоохранительные органы помочь Литве в расследовании дела об антигосударственном заговоре.

Однако правящая коалиция – Либеральный и Новый союзы – придерживается мнения, что подобное обращение к российским депутатам может вызвать в Москве раздражение и лишь ухудшить двусторонние отношения. В России проживает несколько десятков лиц, которые фигурируют в уголовном деле о событиях 13 января 1991 года в качестве свидетелей или даже обвиняемых. На протяжении десяти лет литовская генпрокуратура неоднократно обращалась к своим российским коллегам с просьбами помочь допросить подозреваемых лиц или выдать их литовскому правосудию, однако официальная Москва в этом отказывала.

В проекте обращения, предложенном В.Ландсбергисом, также отмечается, что между Литвой и Россией существует подписанный договор о правовой помощи, который в этом конкретном деле сознательно игнорируется.

Председатель парламентского комитета по иностранным делам Альвидас Медалинскас придерживается мнения, что литовским депутатам стоило бы изучить договор о правовой помощи между Литвой и Россией, а правоохранители в рамках этого договора могут еще раз попытаться с просьбой предоставить правовую помощь в деле 13 января. ■

